№233 (1796)
Аўторак, 9 снежня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць –
5 разоў у тыдзень
Выдавец
УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -1..+1, уначы — -6...-4 на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +3...+5, без ападкаў, уначы — +3...+5, дождж; у Гродне ўдзень — +1...+3, без ападкаў, уначы — +2...+4, дождж; у Віцебску ўдзень — -2...0, уначы — -5...-3, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — -1...+1, уначы — -6...-4, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — -1...+1, уначы — -7...-5, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## 135 населеных пунктаў пацярпелі ад моцнага ветру і снегападу

Як паведаміла прэс-служба МНС Беларусі, у выніку моцнага парывістага ветру 6 снежня былі абясточаны 132 населеных пункты, 2 школы, 2 дашкольныя ўстановы. Электразабеспячэнне 72 вёсак сіламі аварыйных брыгад раённых электрасетак удалося аднавіць у той жа дзень, астатніх населеных пунктаў — на працягу нядзелі.

Акрамя таго, без электраэнергіі больш за суткі заставаліся 38 сельскагаспадарчых будынкаў, у тым ліку 32 фермы, былі абясточаны 239 трансфарматарных падстанцый. Да вечара нядзелі электразабеспячэнне ўсіх спажыўцоў было адноўлена.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## А тарыфы ўсё растуць

Міністэрства эканомікі Беларусі афіцыйна праінфармавала аб індэксацыі за лістапад платы за тэхнічнае абслугоўванне жылых памяшканняў і тарыфы на камунальныя паслугі для насельніцтва.

У адпаведнасці з пастановай Мінэканомікі ад 24 лістапада 2003 года № 222, плата за тэхнічнае абслугоўванне жылых памяшканняў у лістападзе ўстаноўлена 75,74 рубля за адзін квадратны метр агульнай плошчы за месяц. У кастрычніку яна складала 74,25 рубля.

Існуючыя тарыфы на аказваемыя насельніцтву камунальныя паслугі (газазабеспячэнне, халоднае і гарачае водазабеспячэнне, каналізацыя, ацяпленне) за лістапад 2003 года павялічаны на 2 працэнты. Папярэдняя індэксацыя дзеючых тарыфаў праводзілася ў кастрычніку 2003 года на 2,9 працэнта ў адпаведнасці з пастановай Мінэканомікі ад 20 кастрычніка № 205 "Аб індэксацыі тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі".

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Аперыцыі без швоў

За перыяд са снежня 1993 года і да гэтага часу ў Магілёўскай абласной бальніцы хуткай дапамогі праведзена каля шасці тысяч аперацый без швоў. Аб гэтым паведаміў кандыдат медыцыны, намеснік галоўнага ўрача бальніцы па хірургіі Аляксандр Гурэвіч.

Паводле яго слоў, напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя ў хірургіі з'явіўся новы накірунак, што характарызуецца малаінвазійным умяшаннем. "Пасля ўдзелу ў міжнародным кангрэсе, што адбыўся ў Маскве ў 1991 годзе, мы таксама заняліся гэтым перспектыўным накірункам лапараскапічнай хірургіі. Шэсць спецыялістаў бальніцы прайшлі стажыроўку ў Інстытуце хірургіі імя Аляксандра Вішнеўскага ў Маскве і двое — у Германіі, а Магілёўскі камбінат шаўковых тканін набыў для бальніцы неабходнае абсталяванне, апаратуру і інструментарый. У кастрычніку 1993 года ў Магілёве была выканана першая эндахірургічная аперацыя з прычыны жоўцекамянёвай хваробы, а ў снежні ў бальніцы было адкрыта першае ў Беларусі аддзяленне лапараскапічнай хірургіі. У ім сталі праводзіць планавыя і экстраныя аперацыі пры жоўцекамянёвай хваробе, захворваннях печані, вострым панкрэатыце і апендыцыце, язве дванаццаціперснай кішкі, а таксама пры гінекалагічных захворваннях", — сказаў А.Гурэвіч.

Паводле яго слоў, хворыя лёгка пераносяць гэтыя малатраўматычныя аперацыі з вельмі нязначным працэнтам ускладненняў. Разам з тым пасля бясшоўнага ўмяшання пацыент у першыя гадзіны пасля аперацыі можа самастойна падняцца. Акрамя таго, значна скрачаецца тэрмін знаходжання пацыента ў стацыянары і яго часовай непрацаздольнасці.

**Марат ГАРАВЫ.**



# Мы помним

**10 декабря во всем мире будет отмечаться 55-я годовщина принятия Всеобщей Декларации прав человека.**

Этот документ за каждым человеком на земле закрепляет право на достойную жизнь. К сожалению, в сегодняшней Беларуси этого права люди лишены. Наверное, власти очень хочется, чтобы ее граждане вообще забыли о правах человека. Но мы помним...

**МЫ ПОМНИМ**, что в нашей стране пропадают люди, несогласные с властью.

**МЫ ПОМНИМ**, что сегодня невозможно открыто выражать свой протест бесправию.

**МЫ ПОМНИМ** всех, кто уже никогда не вернется домой к своим женам, детям и матерям.

**МЫ ПОМНИМ** и потому вечером 10 декабря с портретами наших близких и зажженными свечами в руках встанем в центре города.

Пусть на эту акцию придут все. Мы ждем, что в 17 часов 10 декабря вдоль проспекта Скорины встанет с портретами политических жертв и зажжеными свечами множество неравнодушных людей.

**Ирина КРАСОВСКАЯ, Светлана ЗАВАДСКАЯ — от имени гражданской инициативы "Мы помним".**



*Участники акции "Цепь неравнодушных людей" готовятся запустить в небо шары с портретами Ю.Захаренко, Д.Завадского, А.Красовского и В.Гончара в четвертую годовщину исчезновения В.Гончара и А.Красовского. Минск, 16 сентября 2003 г.*

**Фото ByMedia.net**

## Заявление Европейской коалиции «Свободная Беларусь»

В День прав человека 10 декабря в Минске пройдет акция "Мы помним...". Ирина Красовская и Светлана Завадская призвали всех неравнодушных людей принять в ней участие, встав вдоль проспекта Скорины с портретами политических жертв и зажженными свечами.

Европейская коалиция "Сваводная Беларусь" присоединяется к инициаторам акции, заявляет об участии в ней и обращается ко всем гражданам Беларуси с призывом поддержать акцию "Мы помним..." В 17 часов 10 декабря мы встанем на участке проспекта Скорины от площади Независимости до площади Победы, чтобы проявить солидарность с людьми, потерявшими по вине властей своих родных и близких. Права человека в Беларуси не должны быть пустым звуком, каждый человек в нашей стране должен быть защищен.

За вашу и нашу свободу!

**ВЫБОРЫ В РОССИИ**

# Победа поборников «управляемой демократии»

### Дума в оттенках серого

Предварительные итоги выборов в Государственную думу России широко комментируются в прессе.

Би-Би-Си цитирует газету "Известия", которая делает такой вывод:"Единая Россия" одержала самую убедительную победу, которую одерживала партия власти за все постсоветское время, а коммунисты, напротив, потерпели самое сокрушительное поражение, потеряв практически половину голосов по сравнению с 1999 годом. Другой очевидный результат выборов — резкий рывок национал-патриотов: ЛДПР усилила свои позиции, новообразованный блок "Родина" оправдал ставку своих создателей на то, что ему удастся оттянуть голоса от КПРФ. Практический провал правых на выборах был вполне прогнозируемым. Главный же итог выборов: "Единая Россия" в блоке с другими лояльными силами может реально рассчитывать на две трети голосов в Думе. Это даст возможность проводить беспрепятственно любой курс, который выберет Кремль. В том числе — вносить поправки в Конституцию России, продолжает газета.




Результаты выборов на четыре года вперед закрепляют отсутствие в Думе какой-либо внятной политической оппозиции исполнительной власти. Однако у этой "палки" есть и второй конец: после того как в Думе коммунисты окончательно отойдут на второй план, , исполнительной власти останется совершенно некого винить в своих неудачах, ошибках, недоработках, пишет газета.

По мнению издания, нынешняя избирательная кампания оказалась, пожалуй, самой "беззубой", если не сказать малосодержательной, за все постсоветское время. После того как лозунг "Не дать реставрировать коммунистическое прошлое!" окончательно ушел из повестки дня, стало очевидно, что никаких новых лозунгов, способных адекватно насытить содержанием предвыборную партийно-политическую борьбу в России, пока не появилось. И если прежний политический спектр можно было назвать условно краснобелым, то нынешний пока скорее напоминает "различные оттенки серого", пишет в заключение газета.

В стране, где за Рогозина и Жириновского голосуют миллионы, опасно ходить по улицам, считает газета. Со страной, в которой десятки миллионов граждан — после всего, что было сделано с их отцами, дедами и ими самими — голосуют за КПРФ, можно делать вообще все, что заблагорассудится, в государственном масштабе.

Независимо от окончательного счета между победителями и побежденными на выборах в Думу реальными победителями на них стали поборники "управляемой демократии", пишет "Независимая газета". Государство помогло ослабить одну партию (КПРФ), создать с нуля другую ("Родина"), а все остальные поставило в такое положение, что они чувствовали себя целиком и полностью обязанными Кремлю за то, что им оставили хоть какой-то шанс на успех.

В итоге еще два института плюрализма и политической независимости — партии и Дума — оказались ослабленными. Их кастрация идет по ставшему уже привычным шаблону. На словах президент Путин продолжает похвально отзываться о демократии как об идеале. На практике же он ослабил или уничтожил все, что могло бы служить противовесами его власти, пишет в заключение газета.

*(Окончание на 3-й стр.)*

**АСАБІСТЫ ПОГЛЯД**

## Сварка дэмакратаў — не на карысць народу

Паважаная "Народная воля"! Вось я атрымаў чарговы нумар сваёй любімай газеты. Увага засяродзілася на артыкуле "Иллюзия либеральной перспективы" намесніка старшыні БСДП (Народная Грамада) Віталя Малашкі. Упэўнены, і іншыя чытачы заўважылі гэтую публікацыю. І, думаю, многія паказалі яе суседзям, знаёмым. Тыя таксама гатовыя былі падтрымаць аўтара, маўляў, малайчына, прынцыповую пазіцыю трымае.

Але праходзіць тыдзень, і тыя ж самыя чытачы-абывацелі ўжо ўпіваюцца вачыма ў артыкул другога вельмі вядомага і паважанага палітыка ў нашай краіне, намесніка старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Яраслава Раманчука пад назовам "Пока кухарка будет учиться управлять экономикой, в стране закончится еда".

І вось менавіта тут у абывацеля заклініла мазгі. Ён у роспачы, ён не ведае, не разумее, хто лепшы, каму верыць, ён жа не эканаміст, а цясляр, тынкоўшчык, шафёр, калгаснік, сантэхнік, у лепшым выпадку з сярэдняй школьнай адукацыяй, таму як яму вызначыцца... Верыў аднаму, зараз трэба верыць другому, і абодва дэмакраты.

У рэшце рэшт абывацель плюецца, мацюкаецца аднолькава на абодвух і сам сабе думае, а няхай застаецца так, як ёсць, наліваючы чарку самагонкі, каб забыцца пра іх, так званых "народных выратавальнікаў".

Таму менавіта я і ўзяўся за пяро, бо лічу: сёння не той час, каб так варожа высвятляць адносіны паміж лідэрамі партый дэмакратычнага накірунку, калі нават у нейкіх **тактычных,** а не стратэгічных планах існуюць рознагалоссі. Бо ад такой сваркі не выйграе ні АГП, ні БСДП (НГ). А вось кіруючы рэжым ад радасці гэтай сваркі будзе аж на сёмым небе. Гэта абавязкова выкарыстаюць розныя падхалуйнікі. Чым больш дэмакраты будуць перагрызаць адзін аднаму горла, тым больш непахіснай будзе дыктатура таталітарызму, а значыць, вечнае панаванне Лукашэнкі.

Дык каму карысць вы, палітыкі-дэмакраты, робіце? Нявольна складваецца такое ўражанне, што вы хутчэй правакатары (прабачце за такі выраз), чым змагары за народнае шчасце, бо патураеце ворагам беларушчыны, нават мову выбралі чужую. Гэта таксама фактар супраць вас, грамадзяне-"дэмакраты". Бо інакш цяжка растлумачыць вашы дзеянні, як здраду беларушчыне.

Няўжо вы, спадары палітыкі, не разумееце, што спачатку патрэбна як мага цясней аб'яднацца і дамагчыся змены ўлады законным шляхам, усталяваць дэмакратыю ў нашай краіне, а потым ужо прапаноўваць свае эканамічныя праекты, зыходзячы з агульных абставін у краіне.

Не, вы ўсё добра разумееце і прадбачыце, але вас задавальняе такое становішча, вельмі задавальняе. І тым не менш мне здаецца, што ў гісторыю вы не трапіце, а калі і трапіце, дык адмоўнымі асобамі, бо вельмі вы далёкія ад народа. Відавочна, што па першым плане ў вас асабістыя амбіцыі і карысць, а не незалежнасць нашай краіны, якая практычна ўжо і не краіна Беларусь, а калонія ўсходняй дзяржавы.

**З павагай —**

**Мікола КАНАХОВІЧ, афіцэр у адстаўцы.**

*г.Пружаны.*

## Вы можаце стаць мецэнатам...

Побач з намі жывуць людзі, якія вельмі хацелі б чытаць "Народную волю". Але, на жаль, у іх няма сродкаў на падпіску.

Працягніце руку дапамогі тым, хто бяднейшы за Вас. Мецэнаты, мы загадзя кажам Вам: "Дзякуй!"

**РЭДАКЦЫЯ ГАЗЕТЫ "НАРОДНАЯ ВОЛЯ".**

**P.S.** *Мы маем вялікі спіс прозвішчаў і адрасоў інвалідаў, пенсіянераў, якія просяць дапамагчы ім аформіць падпіску на "Народную волю". За даведкай звяртайцеся па тэлефоне* ***206-68-71.***

**ЗАДУМАЕМСЯ...**

# Без тармазоў

**Генадзь БУРАЎКІН**

Здзіўляюся проста фантастычнай нястомнасці і вынаходлівасці нашых айчынных падхалімаў самых розных рангаў, узроўняў і ўзростаў!..

Добра памятаю, як адзін сапраўды паважаны старшыня аблвыканкама ажно захліпаючыся ад чыноўнай шчырасці, заявіў, што ў краіне павінен быць толькі адзін палітык. Ці то такім экстравагантным чынам ён прызнаваўся у сваёй інтэлектуальнай нямогласці, ці то тонка намякаў "сюзерэну" на сваю бязмежную адданасць і паслухмянасць. Хто ведае, што ён, зусім не абдзелены высокай ласкай, меў на мэце. Але, здаецца, быў прыхільна пачуты і зразуметы, бо так і не дачакаўся ад таго, каму паслаў вернападданы "сігнал", прынароднага вокрыку ці асуджэння. Наадварот, можа, не так адкрыта, як ён сам, "тэзіс" ягоны пачалі агучваць то з трыбун адказных нарад, то ў шумных "вертыкальных" кулуарах, а то і ў сродках масавай інфармацыі. Амаль агульнапрызнаным у штодзённым грамадскім ужытку стала сумнае сцвярджэнне, што ў нас — у дзесяцімільённага народа — рэальна няма ні сур'ёзных філосафаў, ні па-сучаснаму адукаваных эканамістаў, ні аўтарытэтных лідэраў. Акрамя аднаго... І таму заканамерна і "запланавана" з экранаў тэлевізараў нядаўна прагучала настойлівая прапанова інтэлігентнага выгляду палешука-пенсіянера зрабіць для сённяшняй вышэйшай асобы дзяржавы ягоную пасаду... пажыццёвай... А чаму б і не, калі гэты вядомы ўсім чалавек — адзіны "раскручаны" палітык, калі побач з ім, як ні пераключай тэлепраграмы, як ні гартай "салідныя" газеты, не відно ніводнага хаця б блізка роўнага яму паплечніка ці апанента? Ды і азірнуцца ёсць на каго — вунь Туркменбашы, напрыклад, ужо сёння лічыцца наймудрэйшым, найлюбімейшым і бессмяротным сярод суайчыннікаў...



Што ні кажыце, кароткая памяць у людзей.

Усяго шэсць дзесяткаў гадоў таму народны паэт з Каўказа на поўным сур'ёзе патрабаваў ад сонца пагаснуць, бо ў савецкіх грамадзян было намнога ярчэйшае і цяплейшае свяціла — геніяльны правадыр і настаўнік усіх часоў і народаў вялікі Сталін. Пасля пад дружныя наменклатурныя воплескі на камуністычны небасхіл ускочвалі то дарагога Мікіту Сяргеевіча, то брывастага Леаніда Ільіча, то непрытомнага Чарненку — і ніяк не маглі спыніцца, бяздарна абясцэньваючы шаноўныя пасады і высокія словы. Здавалася б, няўсцерп наеліся ўсе бессаромнай алілуйшчыны і таннага звону залатых зорак ды блішчастых медалёў, трэба ўжо нарэшце спыніцца, перадыхнуць, назаўсёды развітацца з нялепшымі савецкімі традыцыямі. Дык жа не, дзе там! Так і карціць, так і свярбіць паслужлівым столаначальнікам падсюсюкнуць усясільнаму "гаспадару", падпіхнуць яго на п'едэстал, а то і дэманстратыўна лізнуць ніжэй спіны. Не-не, ды і выскачыць раптам упаўне рэспектабельны службовец з прапановай назваць новы гарадскі парк імем "вышэйстаячага" ці падкіне "свежую" ініцыятыву паставіць любімаму кіраўніку помнік на цэнтральнай плошчы. І хаця "правадыр" пакуль што прапускае міма вушэй (ці робіць выгляд, што прапускае?) усе гэтыя сумніўныя прапановы, тым не менш ён не карае падхалімаў, не адмятае ў прынцыпе іхняе відавочнае халуйства, а, так бы мовіць, дае магчымасць прайсці выпрабаванне часам. А чыноўны люд шчырые — у чым, у чым, а ў прыслужванні начальству ў яго заўсёды хапала і вопыту, і фантазіі, і энергіі...

Думаю, што многія ў нашай краіне, як не дужа ўдалы анекдот, успрынялі па першым часе ўрадавую пастанову аб забароне выкарыстоўваць слова "прэзідэнт" у дачыненні да кіраўнікоў фондаў, банкаў, асацыяцый, грамадскіх арганізацый — усіх вышэйшых асоб, акрамя галавы дзяржавы. Верылася, што вось-вось нейкі клерк у прэзідэнцкай адміністрацыі ці ў саўмінаўскіх калідорах адумаецца, папросіць прабачэння ў шаноўных, заслужаных людзей Беларусі і, калі не па ўласнай волі, дык выконваючы загад мудрага кіраўніка, пачне шукаць прымяненне сваёй невычэрпнай энергіі ў іншай сферы дзейнасці. Бо як жа іначай, чым звыклым "прэзідэнтам", можна называць, напрыклад, прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук? Ну ніяк не падыходзяць тут ні "старшыня", ні "загадчык", ні нават "генеральны сакратар". А як будуць цяпер называць кіраўніка Нацыянальнага алімпійскага камітэта?.. І як будуць пачуваць сябе прадстаўнікі Беларусі ў Міжнародных арганізацыях сярод калег, калі нярэдка, акрамя пасад прэзідэнтаў, там ёсць яшчэ і старшыні, і генеральныя сакратары, і яны, паводле свайго статусу, далёка не раўнапраўныя між сабой?.. Наогул — каму і навошта спатрэбілася гэтае "мудрае" рашэнне: няўжо ў краіне і дасюль ёсць нехта, хто не разумее і не ведае, што сярод самых розных прэзідэнтаў самы галоўны і аўтарытэтны — прэзідэнт дзяржавы?..

Хацеў бы спадзявацца на разважлівасць і інфармаванасць нават непапраўных падхалімаў. Але ж... Ужо ідуць напаміны і папярэджанні Мінюста тым арганізацыям і суполкам, якія не паспелі да 1 жніўня, як было вызначана ў пастанове, замяніць слова "прэзідэнт" у сваіх статутных дакументах. Перапісваюцца ўстаноўчыя паперы, збіраюцца з'езды і сходы, у слоўніках і даведніках вышукваюцца самыя неверагодныя азначэнні — ад "фундатара" да "кіроўцы". Сотні, а то і тысячы чалавек заняты пустою і (даруйце за грубасць) дурною працай. Што — у нас вырашаны ўсе надзённыя эканамічныя, палітычныя, сацыяльныя праблемы? Што — адказным дзяржаўным асобам няма чым заняцца? І, урэшце, што — можна чакаць распараджэння аб забароне ўсім Рыгорам называць сваіх сыноў Аляксандрамі, бо ў нас павінен быць адзін Аляксандр Рыгоравіч? А як быць тым, хто ўжо носіць гэтае шаноўнае імя і імя па бацьку?..

Скажаце — абсурд?! Так. Але ж і логіка аўтара сумнавядомай пастановы аб "прэзідэнце" стаіць на мяжы самага вычварнага абсурду. Дарэчы, цікава, хто ён — ініцыятар і арганізатар гэтага грубага палітычнага ўмяшання ў агульнадаступныя скарбы філалогіі? Не сумняваюся, што не сам Аляксандр Рыгоравіч. Тут нахабна варушацца доўгія валасатыя вушы замшэлага і залішне стараннага падхаліма...

У славутай кінакамедыі "Аперацыя "Ы" перад галоўнай сваёй "акцыяй" героі спяваюць невясёлую песеньку, дзе ёсць словы слабой надзеі: "Кандуктар, націсні на тармазы!"... Вось і мне хочацца гукнуць: "Кандуктар"! Націсні на тармазы! Бо раскачагараны паравоз падхалімаў, якія даўно страцілі адчуванне прыстойнасці і меры, заехаў залішне далёка, і страшна падумаць, што чакае "пасажыраў" наперадзе...

*("Беларускія навіны").*

НУ И НУ!

# ...И гвозди-«двухсотки» он крутит на узел

*В прессе уже сообщалось о золотой медали белорусского изобретателя **Николая СОТСКОГО**, полученной на Всемирной выставке изобретений и промышленных инноваций, проходившей в ноябре 2002 года в Брюсселе.*

**ИЗ ДОСЬЕ «НАРОДНОЙ ВОЛИ»:**

*СОТСКИЙ Николай Борисович. Заведующий кафедрой биомеханики Белорусской государственной академии физической культуры, мастер спорта, кандидат педагогических наук, имеет ряд авторских свидетельств и патентов, исполнитель уникальных силовых упражнений, в частности, завязывания в узел 200-миллиметровых гвоздей.*

Затем Николай Сотский и его теперь уже достаточно известный тренажер "БИЗОН" класса "спортивный зал в портфеле" были удостоены специальной медали Французского общества изобретателей на прошедшей в Париже выставке изобретений (в конкурсе принимали участие более 400 изобретателей со своими разработками), а буквально на днях на проходившей в Брюсселе 52-й традиционной Всемирной выставке изобретений и промышленных инноваций (там были представлены около 500 изобретателей из 25 стран мира) наш земляк получил большую серебряную медаль за разработку новой технологии тренировки, запатентованную под названием "Способ подготовки сустава к двигательной активности" (это достигается созданием нового поколения тренажеров, обладающих уникальными свойствами).

— Кстати, не обошлось на этой выставке и без курьезов, — рассказал корреспонденту "Народной воли" Николай Сотский. — Так уж повелось, что мы, белорусы, обычно берем в дальние поездки, как говорят, "собойки" — сало, черный хлеб... Засолил по собственному рецепту и я хороший шмат сала. Работая на выставке с утра до вечера, естественно, подкреплялся, но... Развернув сало один раз, начал привлекать внимание посетителей, поскольку запах был такой же уникальный, как и тренажеры. В результате пришлось делиться продуктом с представителями польской, российской, бельгийской делегаций и даже представить сало на презентацию бельгийского предприятия "United Spirit", производившего дегустацию белорусских и российских сортов водки. Продукт пошел на ура, потому что мне обещали прислать специальный сертификат, удостоверяющий отменные вкусовые качества белорусского сала.

**Алесь НИКАНОРОВ.**

ДЭБЮТ

*Алег ДАШКЕВІЧ:*

# «Мне патрэбна хаця б 3000 долараў...»

*Алег Дашкевіч — чалавек незвычайны. Скажыце, калі ласка, вы бачылі баксёра, які здымае фільмы і заваёўвае на кінафестывалях прызы? Асабіста я — не. І тым не менш Алег і прафесійны спартсмен, і рэжысёр. На прайшоўшым нядаўна ў Брэсце Нацыянальным кінафестывалі імя Віктара Турава* **Алегу ДАШКЕВІЧУ** *за яго дакументальны відэафільм "Простыя гісторыі" далі прыз імя Віктара Турава "Лепшы дэбют у кінарэжысуры".*

**— Алег, як жа так атрымалася, што Вы — чалавек са спорту — патрапілі ў рэжысёры?**

*— У свой час скончыў Інстытут фізкультуры па спецыяльнасці "трэнер па боксе". Вышыняў у спорце не дасягнуў, аднак з гэтай галіны атрымаў дастаткова ўражанняў і жыццёвага досведу. Пасля заканчэння ВНУ спрабаваў працаваць па спецыяльнасці, але час жа быў перабудовачны і займацца нечым адным было па меншай меры нецікава. Па-першае, адкрывалася шмат новых магчымасцяў для рэалізацыі творчага патэнцыялу, а па-другое, трэнерам плацілі тады зусім дробязь. Трэба было шукаць нешта новае. Былі ў мяне свае групы па боксе, кікбоксінгу, нават на шабашкі ездзіў у якасці "цяглавай сілы". Аднак усё гэта было неяк нестабільна, недаўгавечна, і, калі знаёмы прапанаваў пайсці працаваць на вакантнае месца інструктарам па спорце на Беларускае тэлебачанне (не ведаю, як цяпер, а раней была такая пасада), згадзіўся адразу ж.*



Ужо тады ў рэжысёрскай ініцыятыве Алегу Дашкевічу адказаць было нельга. Прыйшоўшы на тэлебачанне, ён стварае сваю групу каскадзёраў, якая неўзабаве пачынае ўдзельнічаць у здымках у кіно.

*"Калі б быў іншы час, то, магчыма, у нашай групы магло б атрымацца і штосьці больш грунтоўнае, — успамінае Алег. — Аднак фільмы з-за адсутнасці грошай здымаліся выпадкова, а таму на нейкія сур'ёзныя прапановы разлічваць не даводзілася. Здымаліся таксама ў рэкламе. Памятаю, атрымаўся цудоўны рэкламны ролік піва "Старажытнае" АП "Крыніца". Там нашы каскадзёры выконвалі ролю рыцараў".*

Рэклама рэкламай, але маладому інструктару хацелася паспрабаваць сябе і ў нечым іншым, больш творчым. Ствараліся нейкія новыя праграмы, студыі, і калі з'яўлялася магчымасць, Алег не адмаўляўся папрацаваць і там. Нават стаў ініцыятарам сюжэта пра свайго сябра, вядомага баксёра Мусліма Біярсланава, які бліскуча паказваў свае здольнасці на прафесійным рынгу. Хоць рэальным жыццёвым паваротам у жыцці Алега Дашкевіча стаў момант, калі ён вырашыў перайсці працаваць спартыўным аглядальнікам у незалежную тэлекампанію ММ-4...

*"Так, адзін бок вагаў тады адразу схіліўся ў бок журналісцкай працы, — кажа ён. — І паралельна я працаваў на тэлекампанію "Інтэрньюс" — гэта такая міжнародная адукацыйная сістэма, якая стварылася для развіцця недзяржаўнага тэлебачання. Мы "кляпалі" сваю праграму, мантаж быў у Маскве, а ўжо затым яна рассылалася па тых станцыях, якія ўдзельнічалі ў праекце. Пасля праект закрыўся, і я ад тэлежурналістыкі адпачываў. Да таго часу, пакуль мне не паведамілі пра сумесны праект "Інтэрньюса", рыжскай студыі дакументальнага кіно імя Поднiекса і Бі-Бі-Сі. Сутнасць яго заключалася ў тым, каб знайсці людзей, якія б зрабілі разгорнутыя замалёўкі аб жыцці грамадства ў постсавецкіх краінах, аб тых метамарфозах, якія там адбываюцца".*

Гэта былі ўжо не навіны, а больш грунтоўная ў рэжысёрскім плане праца. І Алег Дашкевіч удзельнічае ў праекце пад назвай "Дэмакратычны экспрэс". Гэта была яго першая сур'ёзная рэжысёрская работа. А затым ён неяк прачытаў у "ЛіМе" замалёўку Яўгена Рагіна аб перасяленцах з Чарнобыльскай зоны і вырашыў зняць фільм. Аб тых перасяленцах, якія атрымалі кватэры ў Мінску. Тры невялікія навелы аб тым, як гэтыя людзі змагаліся за сваё выжыванне ў мегаполісе, і сталі сюжэтам для фільма "Простыя гісторыі".

*"Доўгі час я нават не ведаў, што з гэтым фільмам рабіць, — расказвае Алег. — А затым студыя "Тацяна" праводзіла фестываль аматарскага кіно, і фільм атрымаў прэмію. Яшчэ быў прыз на фестывалі экалагічнага кіно, а вось зараз — на Нацыянальным. Ноччу мне патэлефанавалі і паведамілі: "Ваш фільм узяў прыз імя Віктара Турава "Лепшы дэбют у кінарэжысуры".*

**— Гэта перамога для Вас многае значыць? — запытаў я ў пераможцы.**

— Безумоўна!

**— Пасля фестывалю прапаноў для далейшай работы не паступала?**

— Пакуль не паступала. Ды і прызвычаіўся я сам вырашаць свае праблемы.

**— А над чым Вы зараз працуеце?**

— Планаў пакуль няма. Калі ўдасца знайсці грошы (патрэбна хаця б 3000 долараў), то, магчыма, пачну працу над новым фільмам. Умоўна кажучы, гэта будзе фільм аб людзях сярэдняга ўзросту. Юнацтва гэтага пакалення прайшло пад аднымі матывамі (і грамадскімі, і асабістымі), затым усё гэта пачало дэфармавацца. Людзі жылі, кахалі, у іх нараджаліся дзеці — усё гэта праходзіла на фоне нейкіх грамадскіх пераўтварэнняў. І вось — адзін дзень з жыцця мужчыны і жанчыны, якія змагаюцца з аднымі і тымі ж праблемамі, гадуюць дзяцей і, як заўжды, спадзяюцца на лепшае. Зрэшты, паўтаруся, усё гэта пакуль толькі ў творчых планах.

**— За перамогу на фестывалі Вы нічога не атрымалі?**

— Добра, што гэты фестываль наогул прайшоў, і дзякуй тым людзям, якія яго ладзілі, асабліва галоўнаму арганізатару Валянціне Сцяпанавай. Гэта каштавала і ёй, і яе калегам шматлікіх намаганняў. Такі фестываль павінен быць — і не адзін. Каб людзі сустракаліся, абменьваліся вопытам, нават па-беламу зайздросцілі адзін аднаму. Бо гэта штуршок да новай творчасці.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

# Крепкий бизнес братьев Дайнеко

*Если вам не совсем чужды национальные традиции — будь то культурные, будь то, извиняюсь, питейные, то, очень возможно, уже слышали о братьях Дайнеко и их предприятии "Белпи". В широких музыкальных кругах братья известны тем, что спонсируют многочисленные акции по пропаганде национальной культуры; в узких же кругах, т.е. любителей крепких спиртных напитков, исключительной популярностью пользуется водка под названием "Генерал", производимая "Белпи". А когда хорошая музыка сочетается с хорошими напитками, то получается как раз то, что надо: возрождение культуры и традиций народа. Ради этого братья, по их утверждению, и занялись в начале девяностых весьма рискованным бизнесом.*



*Братья Сергей, Степан и Дмитрий Дайнеко.*

## Важнейшее из искусств

Братья Дайнеко — Сергей, Дмитрий и Степан, нынешние владельцы и руководители предприятия, считают себя продолжателями дела отца, Леонида Мартиновича, известного белорусского писателя.

О роли "в культуре народа культурного пития" у братьев есть собственная теория. Согласно одному из ее положений, употребляя хорошие напитки, люди не спиваются, а, как и музыкой, "веселят душу". К сожалению, привычка "пить для веселья, а не для разгула", сегодня почти исчезла вместе с культурой наших предков. Люди приучены употреблять суррогаты — опять же как культурные, так и спиртные. Никакими запретами избавить их от этой зависимости, разумеется, невозможно. Для начала требуется восстановить саму возможность выбора между плохим и хорошим.

В отношении водки — это категория прежде всего экономическая. При всем желании средний белорус не может позволить себе баловаться "Абсолютом" или "Русским стандартом". Значит, предложить не менее качественный, но гораздо более дешевый продукт — одна из важных задач национального возрождения.

Именно так, не боясь обвинений в нескромности, говорит о своей миссии человека и бизнесмена старший из братьев, директор "Белпи" Сергей Дайнеко. Сергею 37 лет, в нем чувствуется хорошая физподготовка бывшего офицера-ракетчика, что вкупе с короткой стрижкой и слегка рыжеватыми волосами делает его похожим на преуспевающего немецкого бизнесмена. Но первое внешнее впечатление в данном случае оказывается обманчивым. Сергей хотя и бизнесмен, но сугубо наш, белорусский.

## Это что за феномен — белорусский бизнесмен

Наверное как предприниматель Сергей больше всего заботится о прибыли своего "винокурного производства". Но при этом он ставит его в исключительно жесткие рамки национального, прежде всего культурного, интереса. Проявляется такая целевая установка хотя бы в том, что все изделия "Белпи" имеют названия, связанные, как правило, с белорусской историей, географией, этнографией. Вот некоторые из них: "Смалявіцкая", "Кастусь", "Крамбамбуль", "Вясёлы дзед", "Зуброўка"... Кроме того, каждую марку напитка сопровождает еще и свой национальный слоган, типа "Любі сваё", "Для ўсіх, хто верыць у перамогу".

Что касается "содержания" напитков, то и в них белорусский дух не менее крепок. Достаточно сказать, что в производстве применяются исключительно традиционные технологии, а также травы, как правило, собранные в Беловежской пуще.

— Хотя включение в брэнд национального элемента требовала прежде всего наша "возрожденческая философия", мы очень быстро убедились, что это еще и очень хороший маркетинговый ход, позволяющий занять на рынке собственную перспективную нишу, — рассказывает Сергей Леонидович. — Такой брэнд, во-первых, обращается к лучшим чувствам потребителя, всем нам присущему желанию отдать предпочтение не чужому, а своему. К тому же становится возможным четкое позиционирование продукта, ведь в условиях широко открытого всем товарам белорусского рынка любой собственный брэнд сразу выделяется своей оригинальностью и замечается потребителем. И если рекламируемый товар действительно качественный, то пусть не быстрая раскрутка брэнда (для этого нужны очень серьезные инвестиции), то его стабильное существование будет обеспечено. Особенно, если этому не станет мешать родное государство.

## О лозунгах и делах

Государство, провозгласив лозунг "купляйце беларускае", для тех, кто ему последует, по логике вещей должно было создать — нет, не льготные, это противоречит законам рынка, — а всего лишь нормальные условия деятельности.

Так вот, об условиях. Они таковы, что из нескольких десятков частных предприятий, занимавшихся в середине 90-х годов выпуском качественной водки, сегодня сохранились буквально единицы. Причина первая — постоянное увеличение акцизов при жестком регулировании отпускной цены. Бывают периоды, когда государство требует отдать ему почти все, что предприятию удалось заработать. Понятно, что бюджету нужны деньги, но надо же думать и о завтрашнем дне важнейшей бюджетообразующей отрасли.

Второй болезненный удар по водочному бизнесу нанес Декрет президента №4. После его принятия многие дилеры "Белпи", зарегистрированные как индивидуальные предприниматели, были вынуждены прекратить свою деятельность. Сбытовая сеть оказалась разрушенной, реализация товара резко сократилась.

На вопрос, каким образом предприятие борется с опасно нарастающим шквалом проблем, Сергей Леонидович дает стандартный для бизнесмена ответ: "Мы просто стараемся работать еще лучше". До конца года планируется внедрить стандарт качества ИСО 9001, что даст дополнительную возможность выхода на международный рынок. Плюс расширение ассортимента. Вспомнили, например, что у белорусов всегда были популярны фруктовые водки. На основе старинных записей создали современные рецепты и к концу года планируют начать производство оригинальных напитков, аналогов которым пока просто нет. Третье направление — раскрутка брэнда. Тут "Белпи" опять же действует в своем ключе, облекая рекламу в приятную и полезную "упаковку". Нынешней осенью, например, прошла серия турне известных музыкальных групп, сопровождаемая дегустацией...

## Возвращение к музыке

Так наш разговор опять возвращается в русло поддержки национальных традиций, национального возрождения. ЗАО "Белпи" расположено в деревне Жажэлка Смолевичского района. И для самой деревни, и для района такое соседство приносит многочисленные выгоды. В Смолевичах строится православный храм. Основной спонсор — предприятие братьев Дайнеко. Оно же заботится о местной школе. Купили для ребятишек компьютерный класс, к праздникам ученики обязательно получают от предприятия подарки. Подарками отмечает "Белпи" и заслуги местных ветеранов.

А в октябре состоялось музыкальное событие, отмеченное всей национальной прессой. В концертном зале "Минск" с полным аншлагом прошла презентация музыкального совместного проекта группы "Крамбамбуля". Опять же при спонсорской поддержке "Белпи", которое готовится выпустить на рынок одноименный продукт.

Свой бизнес братья Дайнеко считают очень удачным. Хотя им не удалось, как когда-то мечталось, стать в число наиболее известных в республике производителей высококачественной водки, зато вполне удалось другое — завоевать признание на ниве поддержки национальной культуры.

**Сергей БРАНЧИК.**

# Любовь Дианы Балыко

*В издательстве "Мастацкая літаратура" в серии "Дебют" вышла книга стихов **"Убегающая линия"** 24-летней белорусской поэтессы **Дианы БАЛЫКО**.*

Как сообщил главный редактор издательства "Мастацкая літаратура" Владимир Марук, с 2001 года в серии "Дебют" не выходило ни одной книги, поэтому было решено проработать список произведений, которые можно включить в эту серию. "В списке была фамилия Дианы Балыко, с творчеством которой я не был знаком, поэтому попросил показать ее рукопись. Там был положительный отзыв известного поэта Леонида Дранько-Майсюка, и мне написанное в целом понравилось. Редакция тоже поддержала эту кандидатуру".

О своей книге Диана рассказала, что она состоит из трех разделов: иронически-юмористические стихи, любовно-философская лирика и лирика, связанная с путешествиями. "Но красной нитью в книге проходит любовная лирика, — сказала она. — Любовь в разных ипостасях... А название сборника "Убегающая линия" придумал поэт Леонид Дранько-Майсюк".

**Юлия ТЕЛЬТЕВСКАЯ.**

# Тимофей Калачев — лучший!

*Ассоциация "Белорусская федерация футбола" официально объявила, что лучшим футболистом чемпионата Беларуси 2003 года признан нападающий солигорского "Шахтера" и молодежной сборной Беларуси **Тимофей КАЛАЧЕВ**.*



Самого номинанта приятная новость застала вдали от родных берегов, в Египте, где Тимофей с семьей решил провести отпуск.

Сейчас Тимофей не скрывает, что если в межсезонье ему поступит заманчивое предложение от сильного клуба, то наверняка примет его. "Все-таки белорусский чемпионат не самый сильный", — говорит он.

**Алесь ШУРОЧКИН.**



*Инна ЖУКОВА:*

# «Мне не хватает наглости...»

*Этот год стал для гимнастки **Инны ЖУКОВОЙ** не сказать чтобы "золотым", но и плохим назвать его язык не повернется. "Серебро" и "бронза" на чемпионате Европы, две бронзовые медали на чемпионате мира... Это ли не показатель для настоящего лидера белорусской команды?!*

— О, "Народная воля" пришла! — "дружелюбно" встречает меня в фойе главный тренер наших "художниц" Ирина Лепарская. — Опять гадости про гимнастику писать?

— Почему же гадости? — возмущаюсь я. — С подопечной вашей побеседовать хочу.

— Не верю... Просто так? Побеседовать? Без никаких подковырок?

— А то! — делаю невинное лицо.

— Ну тогда это меняет дело, — смягчается Ирина Юрьевна. — А то все ищут какие-то гадости...

Моя собеседница, **Инна ЖУКОВА,** в это время сидит рядом, "как мышь" — учительница у нее и на самом деле очень строгая.

**Ирина ЛЕПАРСКАЯ:**

*"В отношении Инны Жуковой можно сказать, что у нее наблюдается большой прогресс. Вот если бы еще такими же темпами развивалась психология! Пока же страх перед любыми соревнованиями очень ей мешает. Знаете, есть такая категория спортсменов — чемпионы мира на тренировках. Там они творят чудеса, а вот на соревнованиях реализовать потенциал не могут. Чтобы не бояться, надо чувствовать уверенность. И к Инне это придет, и вообще она очень талантлива. В 15 лет стать восьмой гимнасткой мира — дорогого стоит".*

Что на это может возразить Инна?

"А возражать и нечего. Сама виновата. Допустим, знаю свою ошибку, знаю что делать, а становлюсь перед ковром и... Блин, ну как это назвать? Мандраж, что ли. О ковре вообще лучше не думать перед соревнованиями. А то выхожу... На тренировках — другое дело. Там никакого напряга, чувствуешь себя расслабленной, все получается.

А почему пришла в такой тяжелый вид спорта? Наверное, из-за сестры — она тоже гимнастикой увлекалась. В 4 года я "пошла" — в 6 лет меня "заметили". Знаете, как красиво было смотреть! Грация, пластика, утонченность. Многие девчонки сейчас говорят, что тяжело, но это правда. И правда то, что я никогда не жалела, что пошла заниматься художественной гимнастикой. Хотя... Тренируешься, тренируешься, а затем — неудача. Знаете, как обидно? Нет, вы не знаете, как это обидно. Это ужасно! Я начинаю тренироваться в 8.30, заканчиваю около девяти вечера, свободный день только воскресенье, половину из которого отсыпаюсь.

С нами психологи работают, но кто разберется в тебе лучше, чем ты сам? Нам ведь на тренировках плакать нельзя, вот мы и собираемся всей командой в перерыве. И давай — а-а-а! о-о-о! Слезы ручьем, все девчонки плачут... А уже через пару минут нужно выходить на ковер с улыбкой на лице — Ирина Юрьевна таких ошибок не прощает. Хотя мы и не дети уже — некоторым по 17-18 лет.

За что на меня тренер ругается? Больше всего, наверное, за "кислость". Ну бывает такое настроение, что я поделаю?! Тренер сразу: "Ты — мямля! Ты — кислая! Где настроение, где улыбка?" И нехотя улыбаешься. Потому что гимнастика — на первом месте, потому что это — твоя жизнь. С девяти утра и до девяти вечера. И знаете, я очень даже понимаю Ирину Юрьевну, которую журналисты иногда называют диктатором. Вот это на самом деле — труд! И надо иметь железные нервы. И опыт, и фантазию...

Мы с Ириной Юрьевной придумали мой эксклюзивный прыжок, который американцы называют "Jukov jump" ("прыжок Жуковой"). Знаете такой танец "казачок"? Там в воздухе нужно одну ногу держать прямой, одну согнутой и делать переворот. Мы сделали так, что нога высоко поднята, противоположная рука схватывает ее и — переворот. Увы! Техническая комиссия почему-то не признала его именным, а попросту внесла в таблицу гимнастических элементов. Алина Кабаева и другие имели такие, и соответственно на 1,5 балла уже имели фору. Где справедливость?

А вообще-то, в жизни я спокойная. Мне даже Ирина Юрьевна и девчонки говорят: "Да будь ты понаглее на ковре!" А как быть наглой, если у меня характер другой?! Я скромная, не буянистая *(смеется)*. Мы же света белого не видим, только с девчонками и обсуждаем свои проблемы. Это на ковре мы веселые и улыбчивые, а в жизни... У каждой свой характер, свои проблемы... В раздевалке: "А как твой парень? А у тебя новый? А ты что, разругалась?" Но замуж пока ни одна не вышла. Так, "кости перемываем".

А вот в воскресенье — благодать. Один день в неделе, когда можно отоспаться и не думать, что нужно тянуть носок или садиться на растяжку. Нам с мамой квартиру дали на Радужной, в "олимпийском" доме, так что коллектив чисто женский и здесь. Как там говорят: сами вяжем, сами шьем... Приготовить тоже могу, а как же? Но... Диетой я не страдаю, но однажды поправилась. На 2 килограмма. Это был ужас! Я же сейчас 45 килограммов без пальто и сапог.

Где буду встречать Новый год? Как обычно. В нашем доме, на нашей улице Радужной, где живет очень много спортсменов. После праздничного стола собирается на улице такая же праздничная компания и веселится до утра. Думаю, что так будет и сейчас. Думаю, что новый год будет еще удачнее".

**Алесь СИВЫЙ.**
**Фото автора.**

# Хотите в жизни «перемен»?

*Есть счастливчики, которым судьба подарила на всю жизнь волшебные стекла, через которые они могут созерцать этот мир. Эти стекла — объектив фотоаппарата, постоянно преследующий саму госпожу Жизнь. А кто же те смельчаки, осмелившиеся дать вызов времени?*

Ответ на этот вопрос мне помогла найти фотовыставка "Перемены" и, в частности, ее автор. **Елена КЛЮЙКО** — человек, чья главная черта — восхищать своим талантом. Она и музыкант, и дизайнер, и народный мастер по костюму изо льна, да и плюс ко всему — фотограф...

— Да, направлений творческих у меня несколько, поэтому трудно сказать, которое доминирует, — говорит Елена. — Скорее, они друг друга дополняют. Росток творчества появился на почве моего увлечения дизайном костюма. Для меня это тоже было неожиданно: ничто не предвещало того, что я начну этим заниматься. Толчком послужило мое восхищение чудесными костюмами одной мастерицы. Хобби переросло в профессию, когда меня в 1991 г приняли в Союз художников Беларуси народным мастером по костюму изо льна. Далее нить моего творчества пополнялась за счет увлечения живописью. И вот завершительным аккордом в ней стала завладевшая моим вниманием фотография, которой я уже занимаюсь около 7 лет. Мне очень приятно дарить окружающим тот свет, ту теплоту, те позитивные эмоции, которые видят в моих фотографиях и в которых нуждаются...

Все, что я снимаю (будь то спектакли, портреты), проходит сквозь призму моих эмоций, моих ощущений. Об этом можно судить по моим выставкам: если в моей жизни все замечательно, то и фотографии получаются светлыми, радостными.

**Екатерина ДЕНИСЕНКО.**

